# САНЭТ, ВАРТЫ ПАЭМЫ

## УЛАДЗІМЕР ГЛЫБІННЫ

**Глава чацьвертая з апошняга разьдзелу аповесьці пра Максіма Багдановіча „Пад лебядзінным знакам" Уладзімера Глыбіннага**

*АД РЭДАКЦЫІ*

*Беларуская сталіца доўга рыхтавалася да ўрачыстага адзначэньня 90-годзьдзя з дня нараджэньня выдатнага беларускага паэты, празаіка, крытыка і публіцыстага* Максіма Багдановіча, *якое прыпадала на 9 сьнежня (ці 27 лістапада па старому календару) 1981 г. З гэтай прычыны ў Менску нават адчыняецца адмысловы музэй Максіма Багдановіча на былой Аляксандрыйскай вуліцы недалёка ад дому, дзе ён нарадзіўся. На галоўнай алеі, што вядзе да Вопэрнага тэатру, пастаўлены помнікі М. Багдановічу. Усё больш цікавасьць выклікае тое мейсца, дзе паэта правёў лета 1911 г., вёска Ракуцёўшчына на Маладэчыншчыне, дзе паэта пережыў надзвычайны творчы ўзьлёт. Там, дзе паэта стварыў свае лепшыя цыклі вершаў – „Старая Беларусь", „Места", „Мадонны", напісаў сваю лепшую паэму „Вэраніка" і цэлы шэраг выдатных вершаў і задумаў зборнік „Вянок", цяпер пасаджаны сад, і кажны сучасны пісьменьнік пасадзіў сваё адмысловае дрэўца. А памяць пра паэту ў Ракуцёўшчыне замацаваная вялікім камнем-помнікам з надпісам аб жыцьці там паэты.*

*Газэта „ЧАС" на гэтым мейсцы адзначае 90 гадоў з дня нараджэньня паэты зьмяшчэньнем урыўка з аповесьці знанага беларускага пісьменьніка замяжой Уладзімера Глыбіннага. Аповесьць тая пад назовам „Пад лебядзіным знакам" цалком друкуецца ў часапісу* „Беларускі Сьвет" *у Гранд Рапідс, Мічыгане, пачынаючы з №9 за 1981 г. Выпісаць можна па адрасу:*

Mr. Nikolas Prusky, 1086 Forest Hills Ave., SE
Grand Rapids, Michigan 49506, USA

* * *

– Сяргей Палуян асабліва высака цаніў тое, што Вашэця пачалі збагачваць маладую буларускую паэзію нязнанымі ёй формамі, – казаў Ластоўскі, пераходзячы крыху на іншую тэму гаворкі. – Вашыя санэты, трыялеты, рандо, актавы, тэрцыны, пэнтамэтры, з гледзішча формы, як і тэмаў, збагачваюць наша прыгожае пісьменства і ўзводзяць яго на сусьветны ўзровень. Дагэтуль мы ня ведалі такіх сьведамых дачыненьняў да эўрапэйскіх літаратурных формаў і такога актыўнага культываваньня іх у нашай мове. Вам тут належыцца пяршынства й ініцыятыва.

Максіму было прыемна пачуць зразуменьне мэтаў далучэньня беларускай паэзіі да сусьветнай культуры. Ён з энтузіязмам пачаў даводзіць, што беларускай літаратуры прыходзіцца за кароткі час, усяго за колькі гадоў, прайсьці тыя шляхі, якія ў заходнім сьвеце праходзіліся за стагодзьдзе.

– Мы мусім у імгненьне вока асягнуць тыя ўзвышшы, якія ў Заходняй Эўропе асягаліся цэлых сто гадоў, – загадна выказаўся Максім і закінуў рукой назад сваю кармазынавую шавялюру, што ад узбуджанае гаворкі была насунулася на лоб. – Мы павінны тварыць у ўжо пройдзеных і цяпер праходжаных стылях і рэалізму, і рамантызму, і сымбалізму і іншых наватарскіх пошукаў. А каб хутчэй дайсьці і прайсьці іх, нам канечне трэба тварыць і тыя формы, у якіх гэтыя стылі выліваліся. Вось, напрыклад, санэт. Старажытная форма вершу, але якія прыгажосьці ён у сабе хавае. І як добра ён надаецца для выяўленьня нашых ідэялаў нацыянальнага адраджэньня. Я хацеў даць прыклад такога санэту ў вершы, які я магу прачытаць па-памяці:

*Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі,*
*Над хвалямі сінеючага Ніла,*
*Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла:*
*Ў гаршку насеньня жменю там знайшлі.*
*Хоць зернейкі засохшымі былі,*
*Усё-ж такі жыцьцёвая іх сіла*
*Збудзілася і буйна ўскаласіла*
*Парой вясеньняй збожжа на ральлі.*

*Вось сімвал твой, забыты краю родны!*
*Зварушаны нарэшце дух народны,*
*Я вервую, бясплодна не засьне,*
*А ўперад рынецца, маўляў крыніца,*
*Каторая магутна, гучна мкне,*
*Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.*

– Брава! Брава Вашаму санэту! – выгукнуў Вацлаў ад перапаўненьня пачуцьцём удзячнасьці за такі красамоўны выказ „сьвятая сьвятых" ягонай веры. – У Вашэці з далёкага Яраслаўю больш веры ў канечную перамогу нашага руху, чымся ў нас тут у самым цэнтры яго. Дзякуючы Вам я цяпер і сам яшчэ больш веру ў нашыя мэты й іх асягненьні. Дзякуй Вам, маладзейшым і больш поўным таго запальнага агню, без якога ні адна справа ня робіцца. Дай-жа, Божа, каб ён перадаўся і ўсім іншым і напоўніў верай у сэнс і ў канечную перамогу над злыбядай нашых часоў.

Максім тым часам абдумываў свой нарыс пра санэт. Хацяж санэтаў у расейскай мове, ня кажучы пра францускую ці італьянскую мовы, і напісана досыць многа, аднак тэарэтычнага асэньсаваньня яго, каб ахапіць усе бакі яго і асаблівасьці, няма яшчэ. Значыць, зразуменьне санэту яшчэ не атрымала застылых формаў. Паэты самі сваёй нядбаласьцяй і вольнымі практыкаваньнямі, не давалі яму скрышталізавацца. А тэарэтыкі паэтыкі выказваліся па розламу аб форме санэту. Аднак, ужо на падставе санэтнае спадчыны можна зрабіць выснаў, што лічыць пад гэтаю формаю.

– Санэтам называецца верш, што складаецца з чатырнаццаці напісаных пяцістопным ямбам радкоў, дзе мужчынская рыфма чарадуецца з жаночай і маецца такі парадак: abba abba ccdede. Праўда, апошнія шэсьць рыфмаў рознымі паэтамі разьмяшчаюцца парознаму. Аднак строгія тэарэтыкі, як Сент-Бёў або Ляконт дэ Ліль, адмаўляюцца лічыць іх санэтамі. Адылі паэта Малерб трымаўся адзначанага чарадаваньня рыфмаў. Такі-ж і санэт Петраркі

*Багаславен дзень, месяц, лета, час*
*І момант, калі спаткаў твой погляд!*

– Такім прыгожым выглядае і санэт Пушкіна „Суровый Дант не презирал сонета", хацяж Пушкін і мяняў кананічныя формы санэта, і нават і схему рыфмы, чаго прыкладам можа быць пушкінскі верш – „Поэт! не дорожи любовию народной."

– На падставе строгіх апісаньняў санэту я стараўся ў гэтым прачытаным тут санэце зьнітаваць першых восем радкоў ланцугом аднолькавых рыфмаў у нешта суцэльнае, паэтычны маналіт. Канец першага чатырохрадкоўя і пачатак другога маюць аднолькавыя рыфмы. Гэта дзеля таго, каб зьнітоўка была мацнейшай, каб пачатак верша не распластаваўся на два зусім незалежных куплеты. Але затое рыфмы ўжо далей робяць глыбокую расколіну паміж гэтымі двума чатырохрадкоўямі і ўсім астатнім. Але гэтая расколіна ня робіць рэшту вершу чужой зьместу і асноўнай думцы санэту. Другая частка ня ёсьць зусім адарванай ад зьместу першай, а зусім натуральна выцякае з першай сваёй ідэяй. Пры ўсёй сваёй закончанасьці і незалежнасьці, другая частка санэту паглыбляе думку першае часткі, але не дазваляе ёй пераплюхнуцца за межы собскай формы і ўліцца ў другую. Каб гэта здарылася, была-б папсаваная форма і пашкоджана пачуцьцё прыгожасьці яе. Калі ў першай частцы ідзе мова аб старажытным насеньні, што збудзілася і буйна ўскаласіла парой вясеньняй, дык у другой частцы гаворыцца пра дух народны, які падобна крыніцы, здолее на прастор прабіцца.

– Санэт гэты быццам арэх-спарыш, які пад аднэй шкарлупінай хавае два асобныя, але шчыльна сьціснутыя паміж сабою ядзеркі. Такім чынам, першыя два чатырохрадкоўі разьвіваюць тэму санэта, а ў астатняй частцы – заключэньне ці вывад, даецца адказ на запытаньне, да вобраза даецца тлумачэньне. Пры ўсім гэтым ні адно слова ў санэце не паўтараецца, не ўжываецца больш аднаго разу, чым павялічваецца ягонах сьвежасьць і арыгінальнасьць. Пры задаваленьні гэтых вымогаў, санэт, паводле Буало, можа быць варты цэлай паэмы. І гэтае цуда робяць усяго чатырнаццаць радкоў санэту.

– Так, пераканалі мяне, што санэт – магутная форма вершу, але вымагае працы. Вашэця ў вершы „Песьняру", што летась зьявіўся ў *Нашай Ніве*, – зацеміў абазнаны Вацлаў, – пісалі, што верш трэба „каваць, гартаваць, абрабіць яго трэба з цярпеньнем", каб зрабіць яго гібкім, здольным будзіць „сьвятое сумленьне". Вынікае, што гэта будзе вылучна разумовая праца. Такім чынам, Вы нібыта не даацэньваеце ролі пачуцьцяў і інстынкту ў творчым працэсе. А вось Пушкін вывеў Моцарта і Сальеры і перавагу аддаў першаму з яго спантаннасьцяй і натхненьнем, падказаным падсьведамымі крыніцамі. Пушкін нібыта асудзіў майстроўства Сальеры, цалкам пабудаванае на сьведамай працы, бязупыннай апрацоўцы матар'ялу, шліфоўцы, потных высілках. Ці Вашэця не падзяляе тых пушкінскіх паглядаў на мастацтва, як беспасярэдняга выяву пачуцьця без працы розуму?

Максім задумаўся і, павольна ўзважыўшы аргуманты за і супраць тае тэзы, пачаў здалёку.

– Мастацтва Старажытнай Элады і Рыму назаўсёды будзе для нас узорам найвышэйшых дасягненьняў чалавецтва. Ідэял прыгожасьці тут дасяг высокай дасканаласьці. Але старажытныя майстры дайшлі да яго ў выніку неймавернай працы ў спалучэньні з натхненьнем, ідэяламі красы і высілкамі розуму. Таму праз стагодзьдзі створаныя вобразы жывуць і будзяць у гледача прыемнае ўражаньне. Вобраз Мадонны з дзіцянём на руках, як увасабленьне ідэі жаноцкасьці і мацярынства, ніколі ня зьнікне з мастацкіх галярэяў. Будуць вечна жыць і вобразы Іліяды і Адысэі, створаныя несьмяротным Гамэрам. А за ўсім гэтым стаяла вялізарная праца мастакоў слова і фарбы, граніту і камня. Адтаго яны і зазіхацелі ўсімі магчымымі фарбамі адвечнай красы і становяць вечны ўзор.

У спрэчцы-ж Моцарта з Сальеры я мяркую, што Пушкін быў ня зусім справядлівы ў дачыненьні да Сальеры. Апошні быў Пушкіным занадта сурова раскрытыкаваны, што быццам ён губіў натхненьне сваім халодным розумам. Аднак, зусім абыходзіцца тое, што Сальеры імкнуўся ў сваёй творчасьці ўсё зразумець, абмеркаваць, старанна абдумаць мэтады, матар'ялы, ідэю твора і ўва ўсім упэўніцца, каб сьведама ісьці да ўцелаўленьня свайго твору. У яго няма нічога раптоўнага. У падставе твору Сальеры ляжыць спакойная і канчальная думка. Вы можаце з гэтым згадзіцца, аднак запытаецеся ў мяне:

– А што-ж, хіба гэта ня шкодзіць натхненьню?

– Не, нічагусенькі, ня шкодзіць! Сальеры можна параўнаць з зьнічкай, якая здымае змрок сваім палётам лукою залатой, бліскучая, уся ў абдымках агню гарыць, застаючыся ў глыбіні сваёй халоднай. Гэты холад розуму дае Сальеры змогу здабываць умельства іграць на іскрыпцы з дапамогай нуднае, але сталае працы. Пушкін у сваёй драме падказвае думку, што Сальеры гэтай разумнай працай забіваў свой талент. Але іскрыпка, на якой Сальеры выводзіў стакаты, фугі і гамы, за многія гады гэтак удасканаліла свае зыкі, гэтак зьмянілася да лепшага і стала гудзець ямчэй, што здаецца ўся напоўнена дзіўнымі сьпевамі, сталася надзвычайна чулаю да кажнае музычнае мэлёдыі. Дык вось, пытаюся я, калі Сальеры здолеў з гадамі зьмяніць сваёй музыкай дрэва іскрыпкі, дык чаму-ж ён ня мог тымі зыкамі зьвінацаць свой талент? І гэта сталася. Сальеры не схаваў свайго таленту ў зямлю. Ён ягоны верны служка, які рупнай працай разьвіваў свой талент і дасягнуў нязвычных узвышшаў у музыцы. І перад судом вечнасьці Сальеры можа сьмела глянуць у вочы сваёй музе і за любоў да сваёй здольнасьці, яе дасканаленьне, будзе апраўданы не адно ўласнай душой, але і сваёй музай перад апякуншай навук і мастацтва – Камэнай. Ён па-своему зачарпнуў вады з Ключа Гіпакрэна на гары Гэлікон і пазнаў да канца таямніцы мастацтва.

Так, думка аздабляе твор, і я яе вітаю разам з рупнай працай, якая прыносіць радасьць творчасьці. Яны ўдала дапаўняюць натхненьне ці, іначай кажучы, патрэбу спантаннасьці і непасрэднасьці ў творчай задуме і працы.

*(працяг на 9-й бачыне)*

# Юбілей Міхася Віцэнчыка

Міхась Віцэнчык нарадзіўся 2-га лістапада 1921 г. ў вёсцы Асмалавічы Нясьвіжскага павету.


*Міхась Віцэнчык*

Міхась служыў у Беларускай Нацыянальнай Абароне (Ахове) і ў 1944–5 гадох у польскім войску на італіянскім фронце. У 1946 г. прыехаў у Шкоцыю й ужо ў 1947 г. уступіў у Згуртаваньне Беларусаў Вялікай Брытаніі (ЗБВБ). Пераехаўшы ў Манчэстар дзе арганізаваўся аддзел ЗБВБ, Міхася выбіраюць на скарбніка Аддзелу. Міхась прычыніўся да адкрыцьця Беларускага Грамадзкага Клюбу ў Манчэстары ў які ён улажыў шмат працы як добры гаспадар і барман. У 1969 г. Міхась пераяжджае ў Брадфард і там працуе ў Беларускім Грамадзкім Клюбе „Сакавік".

На працягу 13 гадоў, пачынаючы з 1957 г., Міхась быў сябрам Рады БНР.

Сп. Міхась Віцэнчык, як у Манчэстары, так і ў Брадфардзе, цесна трымаецца БАПЦ, заўсёды бярэ на сябе абавязкі й сёньня знаходзіцца скрбнікам і старастам у Парафіі Сьв. Спаса ў Брадфардзе. Ён таксама ёсьць адзін з першых закладчыкаў „Гуртка Васілька", Беларускае Незалежнае Думкі Паўночнае Англіі дзе ён выконвае абавязкі Вязнога.

У нядзелю 24.10.1981 г. сябры „Гуртка Васілька" й парафіяне БАПЦ ў Брадфардзе ўрачыста адзначылі 60-я ўгодкі народзінаў Міхася Віцэнчыка. Пасьля Багаслужбы Мітр. Прат. а. Янка Абабурка, Настаяцель БАПЦ ў Вялікай Брытаніі, адслужыў Малебен у гонар і пашану Міхася і прачытаў узнагародную грамату прысланую для сп. Віцэнчыка Блажэнным Мітрапалітам Андрэям у якой юбіляру жадаецца здароўя, доўгага жыцьця й памыснасьцяў у працы.

Прыняцьце для сп. Міхася Віцэнчыка наладзіла сп-ня Маджы, добрая прыяцелька Беларусаў у Брадфардзе, у памешканьні юбіляра. Першы тост за здароўе свайго сябры Міхася падняў сп. Янка Калбаса, сакратар Рады БАПЦ які, прачытаўшы жыцьцяпіс Міхася, вітаў яго з атрыманьнем узнагароднай граматы ад Мітрапаліта і жадаў яму доўгага жыцьця й спаўпрацы на рэлігійна-грамадзкім шляху. Ад Рады БАПЦ, вітаў юбіляра Мітр. Прат. а. Янка Абабурка.

Усхваляваны духова ды з вялікаю радасьцю Міхась Віцэнчык прасіў перадаць найшчырэйшую падзяку Блажэннаму Мітрапаліту Андрэю за ўзнагароду граматай, дзякаваў Мітр. Прат. а. Янку Абабурку за адслужэньне Малебену і ўсім сябром і прыяцелям за добрую памяць і прывітаньні.

На заканчэньне, жадаючы юбіляру шмат год і здароўя, прысутныя злажылі 17 фунтаў на газэту „Беларускі ЧАС".

# Слуцкія Ўгодкі ў Ню Ёрку

У сувязі з угодкамі Слуцкага Змаганьня, 6-га сьнежня 1981 г., у Парафіі сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, адбылася Паніхіда па палеглых змагарох, абед і ўрачыстая акадэмія. Багаслужбу адслужыў Уладыка Мітрапаліт Андрэй каторы ў той час наведваў Ню Ёрк і Ню Джэрзі.

На абедзе й акадэміі, якія адбыліся ў царкоўнай залі пасьля Багаслужбы, прысутнічала 30–35 асобаў, парафіяне меснага прыходу й госьці з Ню Джэрзі. У сувязі з царкоўным закалотам колькасьць прысутных троха паменьшала ў параўнаньні з мінулым, але наагул не шмат. Больш выразна кідаліся ў вочы некаторыя яўныя адсутнасьці як, напрыклад, нябыло не аднаго каталіка або ўрадоўцаў БАЗЫ якія ў мінулыя гады выступалі на падобных урачыстасьцях з доўгімі прывітаньнямі й віталі прысутных і духавенства БАПЦ. У Ню Ёрку гэтага больш няма й іхняя так-званая афіцыйная „нейтральнасьць" паказвае ў іньшы кірунак.

У дадатак да ўгодкаў Слуцкага Змаганьня, таксама былі адзначаны 21-я ўгодкі сьмерці а. Хведара Данілюка, вайскоўца й сьвятара, які асабіста прыймаў удзел у Слуцкім Змаганьні. З гэтай нагоды Сп. У. Курыла прачытаў жыцьцяпіс а. Хведара Данілюка й рэфэрат калісьці напісаны а. Хведарам на падобную ўрачыстасьць, у якім успамінаецца шмат дэталяў і імёнаў якія мог ведаць толькі той хто асабіста змагаўся ў Слуцкім Паўстаньні.

Пасьля гэтага, Сп. Курыла прачытаў свой рэфэрат які, ў апініі многіх прысутных, быў адным з лепшых рэфэратаў на тэму Слуцкага Змаганьня. Замест „стандартнага" рэфэрату, Сп. Курыла разглядаў Слуцкае Паўстаньне як толькі адну з многіх падобных падзеяў якія тады тварыліся на Беларусі, паказаў шырокі размах тагачаснага беларускага нацыянальнага збройнага й вызвольнага руху й шмат часу ўдзяліў беларуска-польскім адносінам і перашкодам якія тварылі Паляі.

## НОВАЕ ВЫДАНЬНЕ

Выйшаў першы нумар новага лістка (1 картка) пад загалоўкам „Царкоўныя Навіны" за студзень 1982, выданага Акулам ад імя парафіі БАПЦ ў Таронта. „Навіны" поўнасьцяй прысьвечаны закалоту ў БАПЦ, галоўны сэнс каторых ёсьць, што царквою кіруе грамада бальшынёю галасоў, так як гэта робіцца ў сэктантаў.

# Паведамленьне Мікалаю ад Кансысторыі

18 студзеня 1982 г.

Яго Высокапраасьвячэнству
Архіяпіскапу Мікалаю
ў Таронта, Канада.

Як ведама Вашаму Высокапраасьвячэнству, што 16-га травеня 1981 году, Сабор Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы зьняў Вас са становішча Япіскапа БАПЦ і забараніў правіць сьв. Літургію й выконваць іншыя службы й трэбы ў цэрквах БАПЦ, уключна з Парахвіяй сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта, Канада.

Вы не аспрэчылі пастановы Сабору Япіскапаў і не скарысталі з Вашага права апэляцыі да Сабору Япіскапаў, каб гэтая пастанова была перагледжана, але прадаўжаеце правіць сьв. Літургію ў Парахвіі сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта й наагул падзіце сябе, як Япіскапа БАПЦ, у пагвалчаньні пастановы Сабору Япіскапаў БАПЦ ад 16-га травеня 1981 году, якая Вас датычыць і забавязвае.

Так паступаючы, Вы нятолькі шкодзіце Парахвіі сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронце, але й усёй БАПЦ.

Дайшло да нашага ведама, што ў нядзелю 25-га кастрычніка 1981 г. колькі здэзарыентаваных асоб, за Вашым ведамам і згодаю(адабрэньнем), заблякавала ўваход да царквы Парахвіі сьв. Кірылы Тураўскага й гэтым недапусьціла да пераняцьця Парахвіі нованазначаным настаяцелям Япіскапам Уладыкам Ізяславам.

Гэтым настойліва патрабуецца:

(1) каб Вы стрымаліся ад сеяньня нязгоды сярод вернікаў і духавенства БАПЦаркавы;

(2) каб Вы падпарадкаваліся ў духу хрысьціянскай пакорлівасьці й пакаяньня пастанове Сабору Япіскапаў БАПЦ ад 16-га травеня 1981 году;

(3) каб Вы спынілі ўсякую дзейнасьць у Парахвіі сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронце;

(4) каб Вы паруліся за тое, каб новы настаяцель памянёнае Парахвіі Япіскап Ізяслаў, меў магчымасьць пераняць яе, а вернікі вярнуцца да легітымнае духоўнае апекі.

Вам даецца два тыдні (ад даты гэтага ліста) на прыгатаваньне адказу на гэтае афіцыйнае паведамленьне.

З упаўнаважаньня Старшыні Кансысторыі БАПЦ Блаж. Мітрапаліта Андрэя,

Протапр. Васіль Кендыш
Сакратар Кансысторыі

МІХАСЬ ГАРОТНЫ

## УСПАМІН

*Маці мне казала:*
*Выканай справу тваю!*
*Любі народ беларускі*
*Так як цябе я люблю!*

*Кахай яго да сьмерці*
*Да сьлёзаў да болі любі!*
*Нядай яму памерці*
*Або з ім разам памры!*

25-X-81

# Сход А.Б.Н.

30 сьнежаня 1981 году адбыўся гадавы перавыбарчы сход Ню Ёрскага Аддзелу анты-камуністычнай арганізацыі „Амэрыканскія Прыяцелі Анты-Бальшавіцкага Блёку Народаў" да якой належаць прадстаўнікі амаль усіх паняволеных народаў. Сход вёў старшыня Галоўнай Управы Пётра Вытэнус і на сходзе былі прысутныя прадстаўнікі многіх нацыянальнасьцяў.

На старшыню Ню Ёрскага Аддзелу быў выбраны Лубомір Іваноў (Баўгар), на заступніка старшыні ад Беларусаў Др. Р. Гарошка, у Рэвізыйную Камісію Сп. Віталі Цярпіцкі, Беларус, і іншыя. У выніку выбараў беларуская рэпрэзэнтацыя ў прэзыдыюме аказалася прапарцэанальна вялікая.

Пад час дыскусіі была паданая прапанова, што ў сувязі з рухам *Салідарнасьці* ў Польшчы, „Анты-Бальшавіцкі Блёк" павінен падтрымаць гэты рух (хоць не абавязкава Палякаў) і павінен дамагацца падтрымкі падобных рухаў у Беларусі, Украіне й іншых народаў знаходзячыхся ў Савецкім Саюзе праз радыё *Голас Амэрыкі* й *Радыё Свабода*. Усім падабалася гэтая прапанова, аднак было зазначана, што амэрыканская про-расейская палітыка напэўна недапусьціць да яе рэалізацыі й Украінцы сказалі, што іхныя, як яны кажуць „Квісьлінгі" ў радыі яе ня выканаюць.

# На Тысячагодзьдзе Дзяржаўнасьці Беларусі

28-га й 29-га лістапада 1981 г., Згуртаваньне Беларусаў Канады ўрачыста адзначыла 1000-я ўгодкі дзяржаўнасьці Беларусі.

У праграме сьвяткаваньня, якое адбылося ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Таронта, былі Мастацкая выстаўка й некалькі дакладаў, два галоўныя з каторых друкуюцца ніжэй (у скарачэньні).

## Ключавы Даклад Старшыні Рады БНР, Др. В. Жук-Грышкевіча

*ТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЕ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ*

„Весткі аб найстарэйшай гісторыі Беларусі дайшлі да нас з летапісаў і легендаў. Нажаль найстарэйшыя беларускія летапісі – полацкі й тураўскі – не захаваліся. Таму веда пра найстарэйшую гісторыю Беларусі фрагмэнтарычная. Тым ня меньш, дзякуючы дасьледаваньням гісторыкаў сяньня маем уяўленьне аб галоўных мамэнтах разьвіцьця й дзяржаўнага станаўленьня беларускіх зямель.

„У мінулым, 1981 г., споўнілася тысячу год ад часу, як у гадавіках летапісаў зьявіліся імёны, якія маюць беспасрэднае дачыненьне да гісторыі Беларусі. А менавіта: пад годам 980-м у найстарэйшым летапісе „Повесьці временных лет" гаворыцца пра полацкага князя Рагвалода, ягоную дачку Рагнеду, ды пра тураўскага князя Тура.

„З мамэнтам зьяўленьня першых гістарычных імёнаў канчаецца прагісторыя, а пачынаецца гісторыя Беларусі, адзначаная важнымі падзеямі. Драматычныя падзеі 980 году, якія зафіксаваў летапіс, кідаюць сьвятло на мінулыя да гэтай даты часы й выясьняюць падзеі наступных гадоў."

Далей прэлегент гаварыў пра рассяленьне ўсходніх славян, пра плямёны зь якіх утварыўся беларускі народ – Крывічоў, Дрыгавічоў, Радзімічаў, Севераная – пра балцкі субстрат беларускага народу. Пра значэньне ў гістарычным лёсе беларускіх плямёнаў вялікага воднага шляху „З Варагаў у Грэкі" – аднэй з галоўных гандлёвых, а гэтым самым і культурных магістраляў Усходняе Эўропы таго часу, ды пра другі водны шлях, што лучыў Беларусь праз Прыпяць і Буг з захадам Эўропы. А пасьля гаварыў пра падзеі 980 году.

„Летапісі сьведчаць, што Рагвалод быў незалежным князем Полацкай зямлі, якая прадстаўляла сабою значную сілу. Тверская летапісь кажа, што ўсе крывіцкія землі характэрызуюцца, як полацкія „власьці". Пасрэдным доказам сілы Полацка служыць факт, што Уладзімір ідучы з Ноўгараду паходам на Рогвалада сабраў „воі многі" з Варагаў, Славян, Чудаў і Крывічоў ізборскіх. Рагвалод быў пабіты, Полацак зьнішчаны. Уладзімір відаць і хацеў зьнішчыць небясьпечную для сябе дынастыю Рагвалода, калі забіў яго, жонку і сыноў. Пакінуў толькі Рагнеду, якую прымусіў быць сваёй жонкай. Рагнеда мсьціцца за сьмерць бацькі й сама чуць ня гіне. Ратуе яе сын Ізяслаў. Уладзімір быў прымушаны аддаць бацькаўшчыну Рагнедзе й яе сыну. Збудаваў горад Ізяслаўль – цяперашняе Заслаў'е – і пасяліў у ім Ізяслава з

*(працяг на 10-й бачынцы)*

# Санэт, Варты Паэмы

*(працяг з 7-й бачынкі)*

– Гэтымі думкамі Вы кладзеце падставы для новае эстэтыкі, расчыняеце мастацкую прыроду творчасьці,– заўважыў глыбака задумёны Вацлаў.

– О, нам канечне патрэбна распрацаваць новае разуменьне эстэтыкі. Нашы пісьменьнікі да гэтага часу больш разумелі яе ўтылітарна. Мастацтва больш было сродкам, а ня мэтай. Нам цяпер ужо недастаткова мець малую літаратурную падрыхтову і пачуцьцё грамадзянства. Патрэбен эстэтычны смак і глыбокае разуменьне тэхналёгіі мастацкай творчасьці, патрэбна веда тэорыі і гісторыі эстэтыкі.

– У найноўшыя часы на Беларусі адбылося расчапленьне прафэсыйнага і народнага, г.зв. фальклёрнага мастацтва. Прафэсыйнае мастацтва было пераважна польскім або расейскім па мове. Беларускае нацыянальнае мастацтва даўгі час было рэпрэзэнтавана толькі фальклёрным або ягонай стылізацыяй. Гэта рабіла яго зразумелым народу, але пярэчыла высокаму прафэсыйнаму ўзроўню сусьветнага мастацтва. Абмежаваньне-ж эстэтыкі народнымі эстэтычнымі смакамі і ейнымі простымі ісьцінамі не адпавядала высокаму ўзроўню сусьветнай эстэтычнай думкі. Панавала народная спэцыфіка разуменьня паэта, як дудара, песьняра, гусьляра, лерніка. Народныя інструмэнты выступалі ў якасьці сымбаляў народнай паэзіі, адгэтуль назвы першых зборнікаў паэзіі: „Дудар беларускі", „Дудка беларуская", „Смык беларускі", „Скрыпка беларуская", „Жалейка", „Гусьляр". У народным мастацтве паэзія існавала ў форме народнай песьні. Яна была люстрам народнай душы. Мэтай песьняроў было будзіць народ, выклікаць у яго пачуцьцё чалавека і грамадзяніна. Гэта добра было рабіць на пачатку беларускага адраджэньня. Але за гэтым мусіць прыйсьці праца па ўзбагачэньню нацыянальнай літаратуры дасягненьнямі сусьветнай літаратуры. Пара ўжо пачаць карыстацца мастацкімі сродкамі ўсіх іншых народаў і рознымі кірункамі, каб даць нешта значнае і для сябе і для іншых. Таму я і зьвярнуўся да розных усталёваных форм сусьветнай паэзіі і пісаў санэты, трыялеты ды іншыя формы вершу.

– Гэта Вы добра давялі, што наша мова прыдаецца для розных формаў паэзіі, якімі ганарыцца сусьветная літаратура, – выказаў выснаў Ластоўскі. – Калі самыя дасканалыя ці „панскія" формы надаюцца і для беларускай мовы, дык значыць, тыя ці іншыя беларусы, што корчаць сабою панкоў, могуць падумаць: зусім не такая ўжо яна і „мужыцкая". Гэта мае вялікае значаньне для прапаганды нашых адраджэнскіх ідэялаў. Вам за гэта Вялікае Дзякуй належыцца!

– Гэта добра, што чыста мастацкія творы разам з тым служаць і практычнай мэце, гэта вельмі ўдалае супадзеньне эстэтычных і ўтылітарных мэтаў, – сказаў Максім пасьпешліва і стаў далей даводзіць аб сваім разуменьні эстэтыкі.

– Эстэтыка мае вартасьці і ў самой сябе. Яна зьяўляецца вольным выявам істотных сілаў народу. Фактычна, няма марнай красы, бо сама прыгожасьць зьяўляецца карыснай ежай для душы чалавека. Яна надае ёй высакароднасьці, паляпшае ў ім ідэял жыцьця і заклікае да дасканаленьня паводле ідэялу. Таму творы мастацтва зьяўляюцца бесьмяротнымі.

– А як-жа з наватарствам, калі яго асуджаць, як нібыта мадэрнізм ці дэкадэнцтва?

– У нас часта судзяць новыя рэчы, бо яны нязвычайныя. Але з часам ўсё новае робіцца старым, а тады яго пачынаюць надзвычайна цаніць, як цэняць высока старое малярства. Але цэняць яго перш-наперш за высокае майстроўства, умельства мастака ці аўтара, увасобленае ў дасканалую форму. Ня гэтак зьмест твору, як ягоная дасканаласьць у форме, бярэцца пад увагу. Непадменнасьць мастацкіх сродкаў асобы мастака й іх самабытнасьць ці індывідуальнасьць служаць галоўнымі крытэрыямі для высокай ацэны мінулага й сучаснага мастацтва.

У гэтых адносінах перад намі паўстае патрэба літаратурна-мастацкай крытыкі, думкі якой валодалі-б той-жа ступеньню верагоднасьці, як развvažаньні навукі. Колькасны аналіз пры разглядзе мастацкага твору, пра які я гаварыў Вам надоечы, і палягае якраз у рэчышчы прынцыповай магчымасьці ўжываньня матэматычных мэтадаў у навуцы аб мастацтве.

– А як-жа наконт нацыянальнага стылю ў новым мастацтве? – сьціпла запытаўся Ластоўскі напасьледак.

– О, гэта важнае пытаньне. Асягненьне каштоўнасьцяў сусьветнай мастацкай культуры не значыць механічны перанос іх на родную глебу. Гэта дасканалае вывучэньне іх і творчае выкарыстаньне для мэтаў стварэньня асобнага арыгінальнага нацыянальнага мастацтва. Шлях аваладаньня каштоўнасьцямі сусьветнага мастацтва якраз і ляжыць праз стварэньне нацыянальнага мастацтва. Стыль – гэта спосаб выявы прыгожага ў мастацтве тога ці іншага народу. Кажны народ мае свой асобны нацыянальны стыль, у якім красуецца душа народу. Ён адбівае яго жыцьцё, непаўторны характар, сваё разуменьне прыгожага. Я паклаў гэтую думку ў апавяданьне „Музыка" і ў верш „Слуцкія ткачыхі". Аваладаньне народнай паэтыкай і народным мастацкім стылем вельмі важна для нас усіх. У будучыні я мяркую распачаць тэарэтычную і практычную распрацоўку народнай паэтыкі. Але гэта цяжэй, чымсі ісьці па бітых шляхах. Паўтараючы зробленае народам, ня створыш самабытнага нацыянальнага мастацтва. Адно апіраючыся на ўсе рысы народнага мастацтва і бяручы зь яго нацыянальныя асаблівасьці, але творачы на ўзроўні сусьветных дасягненьняў, можна стварыць творы ў нацыянальным стылі, якія нават пераўзыйдуць іх і дадуць сваё сьвету. Тады і сьвет прызнае нас у складзе твораў сусьветных каштоўнасьцяў. Гэтак выглядаюць шляхі разьвіцьця беларускага нацыянальнага мастацтва й літаратуры, як і ўсяе культуры адроджанага народу.

Зірнуўшы на Вацлаваў твар, Максім заўважыў на ім поўную згоду і зразуменьне. Яму сталася прыемным, што нарэшце ў жыцьці ён паяднаўся з людзьмі, з якімі знайшоў сугалосьсе думак на творчасьць і лёс беларускай культуры. Ён замаўчаў на момант, а затым зірнуў у бок вакна. Праз шыбы адтуль ужо прабівалася сьвятло раньняга ўзыходу сонца. З усходняга боку ўжо першыя праменьні яго пачыналі ружовіць фарбаваныя ваканіцы. Субяседнікі толькі цяпер заўважылі, што начная цемень ужо разагнаная і толькі па кутках пакою яшчэ затрымаўся морак. Прышлося гасіць газоўку.

Гэта было ўжо апошняе спатканьне. Зродненым за іх час душам надта-ж ужо не хацелася разыходзіцца. Кажны зь іх дапушчаў, што можа гэта ўжо апошняя сустрэча ў жыцьці і што можа ўжо ніколі больш і ня прыдзецца пабачыцца. Яны ціснулі адзін аднаму рукі і цяжка стрымвалі сваё расчуленьне.

– Бывайце здаровы, мілы дабрадзею, – казаў на разьвітаньне Вацлаў. – Вы прывязьлі з сабою сьветлы прамень надзеі на лепшае нашага народу. Жывіце здаровенькі і няхай Бог перасьцерагае Вас, каб ня збочылі з абранае Вамі дарогі творцы і адраджэнца. Век буду памятаць нашы начныя размовы. Шмат з чаго скарыстаю ў далейшай працы. Яны лягуць гучнай манетай у нашу нацыянальную скарбонку. Прывітаньне прасторам, якія гасьцінна Вас прымуць.



# На Юбілей Максіма Багдановіча

*(працяг з 6-й бачынкі)*

найбольш добрыя рэчы (*Наша ніва,* 1910, глядзі Каганец, Крапіўка, Будзька й іншыя.)...

Урэшце, адзначым скончанае летась выданьне „Беларускіх песьняроў"[15] і зборнік народных песьняў (сабраў Грыневіч), цікавы з артыстычнага боку. Наагул, нядрэнную памяць пакінуў па сабе мінулы год у гісторыі нашай паэзіі.

III

Пераходзячы да апавяданьняў, адзначым перш за ўсё два асобныя слаі: адзін складаецца з невялічкіх рэчаў, якім і назовы ніяк не падбярэш: апавяданьне – не апавяданьне, думкі ўголас – дык ня тое... адным словам, нешта зьбіваючаеся крыху на так званыя вершы ў прозе. Найчасьцей можна знайсьці там апісаньне прыроды ды выкліканых яе відам думак, але ўсё гэта нудна, непалётна; да таго-ж аўтары іх маюць небагата духоўнага палёту... Аднак бывае, што на апісаньнях нашага шэрага жыцьця адбіваецца лірычны ўздым душы пісьменьніка й уплятае ў вянок нашай літаратуры сьвежую яркую кветку.

Другі слой склаўся з жартаў, разьвітых у дробныя апавяданьні. Вартасьць лепшых зь іх – у жывасьці мовы, у апісаньні народнага быту, у тым, што яны па праўдзе караняцца ў народнай творчасьці ды разьвіваюць яе, уліваюць у літаратурныя формы, чым яны блізкія ды зразумелыя для народу.

Лепшай спадчынай, што ўзбагаціла нашую літаратуру мінулага году, былі бойкія казкі-апавяданьні Ядвігіна Ш. („Бярозка") ды яшчэ дзе-якія рэчы іншых пісьменьнікаў („Ахвяра", Гурло[16]) і інш. Сюды-ж трэба дадаць і некалькі апавяданьняў, зьместам сваім блізкія да народнай мудрасьці („Гарэлка", Я. Окліча; „Казка ня казка", Н.). Хоць і невялікія гэта здабыткі, але й тут выявіўся агульны ўзрост нашай літаратуры.

Урэшце, з нараджэньнем тэатра з'явілася яшчэ адно наслаеньне яе – беларуская драма, праз якую першы раз нашая мова лінула моцнай хваляй зь вёскі ў гарады.

З розных драм, напісаных у беларускай мове, летась прадстаўлялі „Моднага шляхцюка" К. Каганца ды ў перакладзе беларускім з расейскага „Па рэвізіі"[17] ды „Ня розумам зразумеў, а сэрцам"[18].

Есьць у нашай літаратуры й яшчэ адна драма – драма жыцьцёвая. 8 красавіка памёр на дваццатым годзе Сяргей Палуян; а якая любоў да Беларусі таілася ў яго сэрцы, які шырокі многабочны талент загінуў зь яго сьмерцяй, гэта можна зразумець і з глыбокага сымбалічнага, напоўненага духовым болем апавяданьня „Вёска" і „Хрыстос уваскрос", дзе на ўсім працягу б'ецца хваля напружанага пачуцьця...

------

1) Артыкул Максіма Багдановіча „Глыбы й слаі" – адзін зь першых беларускіх аглядавых матэрыялаў, напісаны на прафэсіянальным узроўні. Зь вялікай патрабавальнасьцю ды аргумэнтацыяй ідзе тут гутарка пра шляхі разьвіцьця беларускай паэзіі, прозы ды драматургіі за 1910 год, адзначаюца тут посьпехі й недахопы, аўтар упершыню выказаў думку пра дэмакратычны зьмест беларускай літаратуры, яе сацыяльную аснову. Пад тэрмінам „красная пісьменнасьць" М. Багдановіч разумее мастацкую літаратуру.

2) Пісьменьнікамі-аднаднёўцамі М. Багдановіч называе прадстаўнікоў так званай масавай літаратуры, якія друкавалі на старонках „Нашай нівы" адзін-два вершы й змайкалі.

3) Аўтар артыкула падкрэсьлівае сацыяльную накіраванасьць купалаўскай паэзіі.

4) М. Багдановіч памыляецца, бачачы ў паэме Я. Купалы „Адвечная песьня" *грубы сымбалізм.* Інакш ацэньваюць гэтую паэму М. Горкі (гл. с.205) і С. Руднянскі (гл. с.161–162).

5) Аўтар артыкулу мае на ўвазе верш Я. Коласа „Асеньні вечар", зьмешчаны ў газэце *Наша доля,*№2, 15 вер. 1906 г.

6) Ацэнка творчасьці Я. Коласа ў артыкуле М. Багдановіча вельмі суб'ектыўная.

7) Трэба думаць, што ўвесь абзац пра М. Багдановіча – не аўтарская самахарактарыстыка, а ўстаўка рэдакцыі *Нашай нівы.*

8) Гарун Алесь (Прушынскі Аляксандар 1887–1920) – беларускі паэт нацыянальнага напрамку, аўтар зборніка „Матчын дар", сябра эсэраўскай арганізацыі.

9) Леўчык Гальяш (Ляўковіч Ільля Міхайлавіч, 1880–1944) – беларускі паэт, выдаў зборнік „Чыжык беларускі" (1912).

10) Стары Улас (Сівы-Сівіцкі Уладзіслаў Пятровіч, 1865–1939) – беларускі паэт, супрацоўнічаў у газэце *Наша ніва.*

11) Гартны Цішка (Жылуновіч Зьміцер Фёдаравіч, 1887–1937) – беларускі паэт, празаік і публіцыст, з 1 студзеня 1919 г. узначальваў Часовы ўрад БССР.

12) Чарнышэвіч Фёдар – беларускі паэт, друкаваўся ў газэце *Наша ніва.*

13) Піліпаў (Нялепка І.) – беларускі паэт, друкаваўся ў газэце *Наша ніва.*

14) Буйла Канстанцыя (нарадзілася ў 1899 г.) – беларуская паэтэса, у дарэвалюцыйны час выдала зборнік „Курганная кветка" (1914), які рэдагаваў Я. Купала.

15) „Беларускія песьняры" – падпісная сэрыя кніг беларускіх клясыкаў, якую выдавала выдавецтва „Загляне сонца і ў нашае ваконца". Сюды ўвайшлі кнігі В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча.

16) Гурло Алесь Кандратавіч (1892–1938) – беларускі паэт, друкаваўся на старонках *Нашай нівы.*

17) „Па рэвізіі" – камэдыя ўкраінскага драматурга М. Крапіўніцкага.

18) „Ня розумам уцяміў, а сэрцам" – камэдыя Касьяна Вясёлага (псэўданім Алеся Віцэнсія), друкаваўся ў газэце Крестьянин, 1909, №42–44.

19) У газэце *Наша ніва* за 1910 г. друкаваліся крытычныя матарыялы: У. Самойлы пра „Адвечную песьню" Я. Купалы (№38), А. Бульбы пра „Песьні жальбы" Я. Коласа №40, і „Гусьляра" Я. Купалы пад нр.43.

# Тысячагодзьдзе Беларусі

*(працяг з 9-й бачынкі)*

маткай Рагнедай. Ізяслаў аднак пераяжджае ў Полацк, які ў міжчасе адбудаваўся, і стаецца князем Полацкай зямлі. Ізяслаў быў першым прасьветнікам Полаччыны, увёў пісьменства. Пры ім пісаліся граматы зь ягоным подпісам і пячаткай. Рагвалодавы ўнукі – нашчадкі былі князямі незалежнай Полацкай дзяржавы аж да літоўскага пэрыяду, а Ўсяслаў Чарадзей быў і Кіеўскім князем.

„Беларускія землі былі вольныя ад татарскага іга, тады калі йншыя ўсходня-славянскія землі былі пад ігам 240 гадоў."

Наканец прэлегэнт гаварыў пра нэгатыўнае становішча Масквы й БССР да 1000-годзьдзя дзяржаўнасьці Беларусі, якое там абыйдзена маўчаньнем.

## Выстаўка

У выстаўцы былі прадстаўлены: фантастычныя скульптуры наймаладшага з удзельнікаў, Юркі Акулы; эстэтычны дыван Валі Пашкевіч вышыты прыгожым беларускім узорам; дыван Аляксандры Протас ідэнтычны да тога каторы яна давала на выстаўку ў Вільні 50 год таму й які стаўся собскасьцяй ксяндза Адама Станкевіча; рысункі алоўкам, тушам, акварэлі й нешта новае – афорт (мастацкі від гравюры) Івонкі Сурвілы; інкрустацыі Міколы Шуста – пераважна геамэтрычныя ўзоры выкладаныя дробнымі кусочкамі рознаколернай саломкі.

## Даклад Др. Раісы Жук-Грышкевіч

*НА СОТЫЯ ЎГОДКІ АД НАРАДЖЭНЬНЯ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА*

„Так як імёны Рагвалод, Рагнеда, Ізяслаў сымбалізуюць пачатак гісторыі Беларусі, гэтак імёны Іван і Антон Луцкевічы зьвязаны з пачаткам сучаснага яе этапу – нацыянальна-палітычнага адраджэнскага руху.

„Іван і Антон Луцкевічы запачаткавалі нашаніўскую пару, так як яны былі заснавальнікамі й рэдактарамі газэты „Наша Ніва", тварцамі й ініцыятарамі адраджэнскай ідэалёгіі, арганізатарамі грамадзкага, палітычнага й культурнага жыцьця, вучыцелямі нарастаючых пакаленьняў беларускіх пісьменьнікаў, грамадзкіх і палітычных дзеячоў.

„Іван Луцкевіч быў ня толькі найбольшым беларускім павадыром свайго чясу, ён быў і няўтомным працаўнікам на ніве беларускай архэалёгіі, закладчыкам віленскай Беларускай Гімназіі, тварцом Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча ў Вільні.

„У 1946 годзе на загад Масквы быў закрыты й раскіданы па музэях Жмудзі віленскі Беларускі Музэй імя Івана Луцкевіча, музэй надзвычай багаты памяткамі гісторыі Беларусі, ды скарбамі духовае й матарыяльнае культуры беларускага народу ад часоў дагістарычных да палітычна-нацыянальнага адраджэньня 19і 20 стагодзьдзяў.

## From the CNC's Memorandum to American Political Candidates

As a matter of general interest, the *Byelorussian Times* reprints below a list of "demands" or goals of the Captive Nations Committee of New York, which were disseminated to many political candidates in the 1980 and subsequent elections:

(1) We, the people of the Captive Nations, ask the support of the United States Government towards securing for the Captive Nations a voice in the United Nations.

(2) We ask the United States Government to designate a small territory to be made available for the exclusive use of the Captive Nations Alliance which would be established there under self rule.

(3) We ask the U.S. Government for assistance in establishing a radio and television broadcasting facility, a printing plant and an office to serve the cause of the Caprive Nations.

(4) We ask the U.S. Government to reinstate the House Committee of Un-American Activities and the Senate Internal Security Subcommittee.

(5) We ask that the U.S. Government insist on the repayment of the $11½ billion dollar loan to the USSR under the Lend Lease Act. This money should be used to establish a fund for compensation of victims of Communism and to finance the cause of the Captive Nations.

(6) We, the people of the Captive Nations will support all candidates for public office who express a real interest in the cause of the Captive Nations.

## KUKABAKA IN AMERICAN PRESS

The following quote pertaining to the Byelorussian dissident, Michal Kukabaka, appears in the book "Soviet Dissidents" by Joshua Rubenstein, Beacon Press, p.230–231:

"Issue 43 of the *Chronicle of Current Events*, dated December 31, 1976, mentioned a certain Aleksander Podrabinek. According to the report, Podrabinek traveled to Mogilev, a town in Byelorussia more than eight hours by train from Moscow, to inquire about Michal Kukabaka, a worker who had been put in a psychiatric hospital for distributing copies of the Universal Declaration of Human Rights. His diagnosis stated that he suffered from 'a mania for the reconstruction of society.' Podrabinek talked with doctors and objected to Kukabaka's hospitalization citing legal and medical requirements for compulsory confinement. The doctors insisted they 'could not decide anything,' although, as Podrabinek reminded them, the hospital has the right to review all cases. He also told them that Kukabaka's case was known in Moscow and that activists intended to complain publicly. The next day Kukabaka was unexpectedly let go. The doctors assured Podrabinek that his visit had nothing to do with the patient's release. 'His treatment was simply over,' they explained."

# З Падзеяў Мінулага Году

Традыцыйна многія газэты ў канцы году пішуць агляд важнейшых падзеяў за папярэдні год і ў такі спосаб нібы-то прашчаюцца са старым годам спадзяючыся на лепшыя падзеі ў наступным годзе.

Мы таксама, спадзяючыся на лепшыя падзеі ў 1982 годзе, зробім нешта падобнае, хоць у беларускім жыцьці ў Амэрыцы за 1981 год ня трэба рабіць вялікага сьпіску падзеяў бо адна зь іх выразна заслугоўвае звацца найважнейшаю. Гэта ёсьць царкоўны закалот у БАПЦ – непрыемная падзея, але ніхто ніколі не казаў, што важныя падзеі павінны быць прыемнымі.

Царкоўны закалот ёсьць важны тым, што ён пагражае далейшаму здароўю адзінай беларускай запраўды незалежнай царквы, БАПЦ, а без гэтай царквы загіне бальшыня беларускіх грамадзкіх цэнтраў і сьвецкіх арганізацыяў якія ўжо сёньня трагічна адчуваюць эфэкты закалоту. Цэнтральным у закалоце ёсьць канспірацыя супраць галоўнага кіраўніцтва БАПЦ, супраць Першагерарха й ягонага аўтарытэту без якога царква існаваць ня можа таксама як Каталіцкая царква ня можа існаваць без аўтарытэту Папы Рымскага. Як відаць, гісторыя паўтараецца, бо падобная канспірацыя тварылася супраць Архіяпіскапа Васіля амаль 20 гадоў таму.

Есьць надзея, што ў 1982 годзе закалот палягчэе, а ў Брукліне ён ужо зусім коньчыўся. Як-бы там ня было, нам трэба змагацца з гэтымі нэгатыўнымі падзеямі каб яны скарэй аканчальна закончыліся і дзелягэтага ў мінулым годзе газэта дала ім належную шырэйшую ўвагу.